Год II. — № 21. Пятніца, 27-га трауня (мая) 1921 г. Цана нумару 10 марак.

# НАША ДУМКА

ПАЛІТЫЧНАЯ, ЭКАНАМІЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА.

У газэце супрацоўнічаюць: НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА, Г. Б., ГЕННАДЗІЙ БОГДАНОВІЧ, ВІЛЯНЧУК, МАКСІМ ГАРЭЦКІ, А. ДМАХОУСКІ, АЛЕСЬ КАБЫЧКІН, КРАУЦОУ МАКАР, ДЗЕД КУЗЬМА, М. К-Ч., А. МСЬЦІСЛАУСКІ, ІВАН МЯЛЕШКА, АНТОН НАВІНА, АДАМ САЛАДУХ, КАЗІМІР СВАЯК, СТАНІСЛАУ ЧЫЖЭУСКІ і інш.

Адрэс рэдакцыі і канторы: Вільня, Вострабрамская, 9.
Цэны абвестак: за радок пэтыту: перад тэкстам—40 мар., сярод тэкста—60 м., на апошняй страніцы—15 марак. Увага: страніца мае 6 шпальтаў.
Падпіска: на 3 месяцы 150 польскіх марак або 10 хунтаў мукі, за граніцу 250 польскіх марак.

Пачынаючы ад гэтага нумару падпісная цана на газэту „НАША ДУМКА" **падвышаецца** да **150** пол. марак на тры месяцы, за граніцу — **250** пол. марак.

Усіх паважаных падпісчыкаў просім даслаць розьніцу падпісной цаны.

**Рэдакцыя.**

## Да Беларускіх інстытуцыяу за граніцай.

Рэдакцыя зьвяртаецца да ўсіх Беларускіх Інстытуцыяў, якія самі адтрымліваюць „Нашу Думку", або давалі загад аб высылцы газэты на розныя адрэсы, з прозьбай аб прысылцы падпісных грошай.

Калі ў хуткім часе грошы ня будуць прысланы, высылка газэты па гэтых адрэсох будзе спынена з 25 чэрвеня г.г.

**Рэдакцыя.**



## „Наша Думка"

павінна з засмучэньнем паведаміць некаторых сваіх падпісчыкаў-вучыцялёў, яшчэ да гэтага часу ня прысланых навет грошы на перасылку, што газэта ня будзе ім высылацца з 1-га чэрвеня і да той пары, пакуль ня будзе належнае заплочана.

„**Наша Думка**" паведамляе паважаных падпісчыкаў, заплаціўшых да 1-га чэрвеня або даставаўшых газэту дарма, што з 1-га чэрвеня ні напавер, ні дарма газэта высылацца ня будзе. Просім прысладь грошы да паказаннага часу.

Усіх паважаных грамадзян падпісчыкаў, якія неакуратна дастаюць „**НАШУЮ ДУМКУ**", надта просім паведаміць нас аб гэтым.



## Ад „перадышкі" да нацыянальных рэвалюцыяў.

Пасьля даўгой і інтэнсыўнай работы, якую падчас выносяць наш розум і воля, або навет наша цела, настае пэрыяд зморанасьці, нячуласьці, а то і атрофіі ўсіх, або некаторых нашых здольнасьцяў. І тольк і з часам, калі арганізм наш атдыхне, як-бы перародзіцца, ізноў мы пачынаем дыхаць поўнымі грудзьмі і на усё рэагаваць усім сваім здароўем. Розум, воля і цела з новай энэргіяй гатовы тады працаваць і працаваць.

І ня толькі ў жыцьці асобнага чалавека, але і ў жыцьці цэлага народу, а падчас і ўсяго сьвету настаюць такія хвіліны, калі надзвычайныя высілкі і натужаньні канчаюцца апатыяй, інэртнасьцю, слабасьцю. Тады людзём хочацца супакою, адпачынку, міру.

Здаецца, што за апошніх сто гадоў, пасьля францускай рэволюцыі і напалеонаўскіх войнаў, цэлы сьвет ніразу не натруджаваў так моцна сваіх нэрваў і усіх сіл, як у апошнія 5—7 гадоў. Нескончальная вайна, так упорта і бесперарыўна цягнўушаяся,.. а потым рэвалюцыя з яе дамовымі войнамі і усялякімі крызысамі заматалі людзей настолькі, што ня гледзячы на тое, што да ідэалу далёка, а несправядлівасьць цьвіце і дужы душыць слабога, — усё-ж больш за усё усім хочацца адпачыць ад слабасьці і зморанасьці, каб набраць новых сіл для новай барацьбы.

Цяга да замірэньня і супакоеньня становіць галоўную сутнасьць мамэнту.

Могуць сказаць, аднак, што гэта ня зусім так,—што, напрыклад, Польшча толькі і думае аб вайне ды аб вайне: то з немцамі, то з бальшавікамі, то з літоўцамі; што Грэцыя ваюе з Турцыяй; што бальшавікі, абвесьціўшыя пэрыяд мірнай адбудовы Расеі, гатовы ува ўсякі мамэнт і з кім папала ізноў пачаць вайну.

Так. Скаламучанае мора яшчэ ня зусім спакойнае. То там, то сям яшчэ уздымаюцца хвалі і плескаюць аб бераг, але бура пранеслася, ў паветры спакой, нябесная стыхія вычарпала свае сілы і замёрла, а без яе і зямля і вада супакояцца самі сабой.

На даўгі час?

Трудна сказаць. Ніхто ня можа быць пракорам. Але ўсё-ж. на аснове перажытага людзьмі за даўгі пэрыяд гісторыі зямлі можна з большай ці меншай пэўнасьцю гаварыць аб сучаснасьці і будучыне.

Углядаючыся у мінулыя гістарычныя далі, мы бачым—вечны рух людзкі, то заціхаючы, то зноў ўздымаючыся, выкліканы рознымі прычынамі: рэлігійнымі, нацыянальнымі, соцыяльнымі, эканамічнымі, палітычнымі і г. д. Пасьля рэвалюцыі, або вайны, настае супакоеньне, замірэньне, або проста „перадышка", зусім не бальшавікамі толькі практыкаваная. У залежнасьці ад шмат якіх прычын „перадышка" бывае ці доўгай ці кароткай.

Цяперашняя палітычная сытуацыя, як сусьветная, так і „тутэйшая" мала гаворыць аб тым, што перадышка будзе доўгаю.

Пашукайце здаволенных сярод народаў. Здаецца, іх няма, а калі ёсьць, то іх можна пералічыць на пальцы. А нездаволеных? Амаль ня ўвесь сьвет, асабліва-ж, так званыя, маладыя, паўстаючыя да палітычна-нацыянальнага жыцьця народы, што жывуць пад чужацкім гнётам у розных каленіях, або на „крэсах", (акраінах) і г. д. Усе яны зусім ясна дарогай рыхтуюцца да нацыянальных рэвалюцыяў і ніякая сіла іх ня устрымае; яны дабьюцца свайго ў мамэнт, калі набяруць сілы. А пакуль што ім патрэбна перадышка і замірэньне на некаторы час, каб падвесьці агулы мінуламу, каб сабраць і згрупаваць новыя сілы і намеціць новыя пазыцыі.

У добры час!

## Максім Багдановіч.

(У чацьвёртыя ўгодкі сьмерці Яго).

12|25 мая 1917 году памёр у Ялце ад сухотаў вялікі пясьняр беларускі Максім Багдановіч.

Чатыры гады мінулі з таго дня, калі сумная вестка аб сьмерці Яго разышлася па ўсёй Беларусі. Многа пераэжы-перацярпеў наш народ за гэты час бур-навальніцаў, што зьнішчылі нашу Бацькаўшчыну. Многа яркага — і добрага, а яшчэ больш благога — бачылі мы на роднай Зямлі. Ад мамэнтаў вялікай радасьці пры спаўненьні нашых найсьвяцейшых ідэалаў мы ўжо гэтулькі разоў так рэзка, так неспадзявана пераходзілі да поўнае ўтраты веры ў самы ідэал. Білі нас па нэрвах і свае і чужыя, — білі балюча, бязьмілаэрна....

Пасьля бур, пасьля вострых перажываньняў душа шукае, супакою

Скора набраны быў і штат пэдагогаў і іншых служачых гімназіі. Гімназія адчынілася ў складзе дзьвюх падгатоўчых і ўсіх, апрача восьмае, іншых клясаў, пры чым, дзеля таго, што адразу немагчыма, было-б усе навукі і ўва ўсіх клясах выкладаць пабеларуску, дык ў старшых клясах большасьць навук пастаноўлена было часова выкладаць на расейскай мове, покуль ня будзе падабраны адпаведны пэдагогічны пэрсональ, не зьявяцца беларускія падручнікі, а разам з тым-ж наплыве ў гімназію беларуская вясковая моладзь. Але, могуць спытацца, нашто-ж тады было адчыняць старшыя клясы, калі ў іх навукі выкладаць пабеларуску было немагчыма? Такое пытаньне часта задаюць нам з розных бакоў. Адказ на гэта вельмі просты: каб ня даць нікому іншаму будынку, каторы зьяўляўся вельмі вялікім вабікам, для захватчыкаў, як чырвоных, так і чорных, будынку, каторы і ў даўныя годы і ў цяперашні час служыў і павінен служаць справам нацыянальнага адраджэньня беларускага народу. Дзеля гэтай важнай прычыны Камітэт змушаны быў пайсьці на кампраміс з сваімі ідэёвымі праконаньнямі і схіліцца ў бок «рэальнай палітыкі». Мела так сама вагу і тое яшчэ, што склад вучняў быў мястовы — Віленскі, які мала знаў беларускую мову.

Кіраўніцтва ўсімі справамі па адчыненьню гімназіі і пасаду дырэктара гімназіі Камітэт даручыў М. Кахановічу, на каторага і легла большая частка працы па адчыненьню гімназіі і яе упарадкаваньню. Сярод другіх асоб, палажыўшых шмат працы і памагаўшых адбудове гімназіі, трэба асабліва ад'значыць Івана Луцкевіча, у тую пару ўжо цяжка хворага на сухоты, але аддаваўшага апошнія сілы справам дарагой бацькаўшчыны. Шчыра і многа папрацавалі яшчэ і Іван Станкевіч, Ю. Мэнке, К. Шабуня, Л. Чарняўская (Гарэцкая), А. Сакалова і інш.

Ў цяжкі момэнт паўстала 1-ая Віленская Беларуская гімназія. Многа гора прышлося вынесьці яе працаўнікам, змагаўшымся з голадам і холадам, таму што матар'яльнае становішча гімназіі было вельмі кепскае. Яшчэ больш прышлося вынесьці гімназіі ад пагрозаў адабраньня будынку. «Літбелу» вельмі хацелася высяліць гімназію з будынку, ў якім замест гімназіі прапанавалася зграмадзіць музэі: гістарычны, этнаграфічны, зоолёгічны і інш.

Прыходзілася амаль што кожны дзень хадзіць на камісарыятах і даказваць, што будынак гімназіі для музэяў не падходзіць. Камісар прасьветы, асабліва энэргічна клапаціўшыся аб замяшчэньні музэяў у будынак гімназіі, пачаў цыкль рэформаў тым, што разьдзяліў „1-ую Віленскую Беларускую гімназію“ на «трудовыя» школы: ніжэйшай і вышэйшай ступеняў, пры чым кіраўніком вышэйшай ступені назначыў п. Іонінас. Ня трудна было прадбачыць, для чаго гэта рабілася—і рабілася толькі з беларускай гімназіяй, не чапаючы ніводнай іншай Віленскай школы. Рабілася для таго, каб лягчэй было выцягнуць з будынку беларускія «трудавыя» школы паасобку, ці, можа, выцягнуўшы „трудавую“ школу п. Іонінас, з большым правам «даказаць» беларусам, што для аднэй толькі ніжэйшай «трудавой» школы такога вялізарнага будынку не патрэбна.

У самы разгар сваркі за будынак ў Вільню прыйшлі польскія войскі.... Так кончылася першая найтруднейшая пара істнаваньня гімназіі, калі яна яшчэ ня добра з'арганізаваная і не ўмацованая, магла быць задушана вельмі лёгка.

З 19 красавіка 1919 г. настаў для Вільні пэрыяд польскай окупацыі. У працягу гэтай окупацыі, аж да 14 ліпеня 1920 г., Віленская Беларуская Гімназія чула сябе вельмі ня добра. Гэнаральны Камісарыят Усходніх Зямель амаль поўгода не даваў гімназіі ніякіх матар'яльных дапамог, і каб на помач з боку..., дык пэдагогі проста перамёрлі-б з голаду ці паразьбягаліся-б, і гімназія загінула-б. Толькі праз поўгода Гэнаральны Камісарыят стаў даваць невялічкія дапамогі якія нязначна палепшылі матар'яльны быт гімназіі. Адносіны офіцыяльнай польскай улады да гімназіі як і наогул да беларускай прасьветы—былі ня лепшымі, як пры бальшавіках. Прадстаўнікі беларускай прасьветы, якім прыходзілася мець дачыненьне з польскімі офіцыяльнымі кіраўнікамі прасьветы, выносілі ўражаньне, што офіцыяльная ўлада ня толькі не падтрымлівае беларускай прасьветы, але стараецца ня даць ёй ходу.

Але ня толькі офіцыяльная польская ўлада дрэнна адносілася да нас, яшчэ больш польскае грамадзянства. З яго боку ішлі заўсёдныя пагрозы выгнаць беларускую гімназію з базыльянскіх муроў. Вядомы польскі эн-дэк п. В. Студніцкі павеў цэлую кампанію, агітуючы і на народных сходах і ў магістраце за адабраньне ад беларусаў базыльянскіх муроў і пасьпеў навет правесьці праз сходы і магістрат патрэбныя рэзалюцыі, каторых ня удалося беднаму п. Студніцкаму зьдейсьніць з прычыны адходу польскай арміі і прыходу бальшавікоў.

Кароткі пабыт бальшавікоў — ад 14 ліпеня да 27 жніўня 1920 г. — нічым не ад'значыўся ў жыцьці гімназіі. Ім ня было мусіць часу займацца справамі прасьветы з-за вайны.

Пабыт ліцьвіноў у Вільні — ад 27 жніўня да 11 кастрычніка 1920 г.—прынёс, хоць і не адразу, значнае палепшаньне матар'ялнага становішча гімназіі. Ліцьвіны за кароткі час свайго незалежнага істнаваньня пасьпелі выпрацаваць добры закон аб школах, дзякуючы якому кожная нацыянальная школа забесьпячаецца з дзяржаўнага скарбў сталай дапамогай.

Але каротка пабылі ліцьвіны...

На зьмену ім прышлі ізноў палякі, пад штандарам «Сярэдняй Літвы». Праўнае і матар'яльнае палажэньне гімназіі пры „Сярэдняй Ліцьве“, хоць і не адразу, але досіць скора зрабілася сталым. Афіцыяльная ўлада адносіцца да гімназіі ня выразна, але дапамагае ёй матар'яльна.

Што датычыць адносін да нас польскага грамадзянства, то як і пры першай польскай окупацыі, ізноў раём круцяцца і пашыраюцца чуткі, што вось-вось базыльянскія муры ад нас адбяруць, і беларускую гімназію прагоняць з муроў. Пан В. Студніцкі пачаў ізноў заходзіць з рознымі «экскурсантамі» у будынак гімназіі, да нечага, мусіць, рыхтуючыся.

Застаецца яшчэ сказаць аб ўнутраным жыцьці 1-ай Віленскай Беларускай Гімназіі.

З усіх беларускіх гімназіяў, толькі Віленскай пашчасьціла стаць досіць моцна на ногі. Прычыны таму—розныя. Як нам здаецца, галоўнейшая з іх, гэта тая, што Вільня шмат вякоў была цэнтрам духоўнага і дзяржаўнага жыцьця беларусаў. Беларускае адраджэньне ў канцы 19-га і ў пачатку 20-га веку таксама пайшло з Вільні, гдзе на чале адраджэнчаскай працы сталі браты І. і А. Луцкевічы, навокала каторых гуртаваліся як палітычныя, так і культурна-прасьветныя беларускія сілы. Даўгі час, амаль не вынятова, толькі з Вільні ішлі на ўсю Беларусь гарачыя прызывы к адраджэньню. Ня дзіва, што ў Вільню, як і ў даўныя часы, так і цяпер цягнуцца нашыя адраджэнцы з сваімі думкамі і пачынае цягнуць і ўся Беларусь.

Дзякуючы, аднак, таму, што падчас закладзін гімназіі бальшавіцкая навала вырвала з Вільны патрэбных для культурнай працы людзей і змусіла іх ехаць за граніцу, Беларуская гімназія у Вільні не адразу знайшла патрэбных беларускіх пэдагогаў і ў сваіх старшых клясах гімназія не магла і да апошняга часу стацца чыста-беларускай. Прысутнасьць у гімназіі пэдагогаў-небеларусаў, была усё-ж, — як мы думаем, зьявішчам часовым. Цяпер ёсьць у гімназіі досіць моцная і досіць вялікая група сапраўдных беларускіх пэдагогаў, працуючых у беларускай справе здаўна, яшчэ задоўга да закладзін гімназіі.

Калі праўда, што школа—гэта вучыцель, то беларуская школа — гэта беларускі вучыцель, ўсей сваей душой адданы роднай справе. Ня будзь-бы у Віленскай Беларускай гімназіі шчырых загартованых беларускіх працаўнікоў, дык трудна сказаць — ці вышла-б што-небудзь з гімназіі.

Як рэзультат працы гэтай групы пэдагогаў у гімназіі ёсцьць цяпер моцны гурток беларускай вучнёўскай моладзі, які добра працуе, выяўляючы свае здольнасьці у розных сфэрах творчасьці: поэзіі, літэратуры, сцэны.

Вучнямі гімназіі выдаецца журнал: «Маладое Жыцьцё». Сярод іх зьяўляюцца здольныя поэты і артысты. Асабліва трэба адзначыць выдатную маладую паэтку Н. Арсеньневу, вуч. 8 кл. **А.**

## „Даліся ў знакі“...

Каапэратыўны рух ў астатнія часы так значна разьвіўся, што ня толькі дробныя гандляры ім занепакоены, а навет і вялікія гандлёвыя кракадзілы: купцы-аптавікі як у нас, так і ў Пазнані і ў Мала-Польшчы. Я сам чуў ад аднэй асобы з Глыбокага, як яна скаржылася свайму суседу ў вагоне на тое, што гандаль цяпер ідзе слаба, бо цяпер усюды «так шмат гэтых каапэратываў»...

Са свайго боку гандляры таксама ня сьпяць і робяць ўсё магчымае на шкоду каапэратываў: там нагаварываюць сялян проці сяброў ураду, там агітуюць проці закладкі таварыства, там страшаць сялян бальшавікамі і г. д. Ў адным мястэчку Браслаўскага павету гандлёвай драбнатой, кажуць, была навет адтрымана ад нейкага камітэту (відочна, ёсьць і такі камітэт!) у Вільні да-

Шмулькі струкавата галава як лахмата вольха, матляхаецца ў паклонах ва ўсе староны:

— Ці жывы, ці здаровы?

— Што-ж так позна?—азываецца прыязьліва розначалосае пытаньне.

— Ня меў часу!

— Шмулечка, я хвора, я ўміраю, а ты вачэй не пакажаш, — прыміліваецца Зялёнка да Шмулькі.

— Выбіраўся, ды ўсё работа стрымвае, і сёньня пільную кінуў, каб вам білет пррынесьці. У панядзелак пойдзем у дварранскую.

— Шмулька, на гэты концэрт? Маніш, грэшніку... Я ўжо два тыдні таму назад была ў касе; пашла толькі так, для пацехі што нібы на такі важны концэрт магу пайсьці я — Зялёнка—курсістка. Ведама, аказалася такая цана білетаў, што нам, вучашчымся, ня'т грэшна туды свой нос ткнуць.

— Во-во! Гэта вам, але ня мне.— Шмулька важна ўлажыў рукі ў кішэні і прайшоўся па станцыі, надуты, як індык.—Што вы, то ня я! Я, Шмулька, толькі за пачотным білетам згадзіўся пайсьці паслухаць.

— Пхы! — рагатнулі.

А Шмулька няздатна далей круціць, махлюе, каб Зялёнка не дагадалася, што для пацяшэньня яе, хворай, Шмулька эканоміў доўга, покі сабраў, каб купіць білеты на гэты концэрт.

— Ня пытайце! Ня дурррыце галавы!

— За што вам пачотны?—прыстае Зялёнка.

— А хоць-бы за тое, што мой бацька Мэеррр, а бацькі бацька Ёсель!

— Ха-ха-ха!—не ўдзяржаліся ўсе

— Шмулька, твая прапаганда штось за быстра йдзе. Праўда, то праўда, што яго бацька пэўна Мэер, альбо Ёсель, але вялікаму артысьце зручней прызнацца да нямецкай нацыі, ніж да рассыпаных па сьвеце жыдоў.

Трэба ведаць, што Шмулька вельмі гардзіцца тым, што ён завецца Шмулькай, тым, што мае гарбаты нос, што „р“ выгаварывае, як „ррр“. Шмулькі манія — гэта прапаганда музыкай, літэратурай, народным тэатрам паміж жыдоў. Шмулька сьвята верыць, што жыды хутка зразумеюць сваю ганьбу, каторая няволіць іх запірацца ўсяго свайго роднага і падшывацца пад опраткі чужых сільнейшых культураў. — «Прыдзе час», — Шмулька нямаль прысягае сваім натхнёным галасам,—«што жыды зьвернуць з дарогі асыміляцыі!!» — Сам Шмулька, так сказаць, стаіць яшчэ толькі-толькі ў дзьверах храміны композыцыі, а ўжо задзівіў прафэсароў арыгінальным узяцьцем біблейнага тла для сваіх твораў».

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Вось і ўсё аб Шмульцы. Але як многа сказана ў гэтых колькінаццацёх радкох. Як прадстаўніца народу, каторы з напружаньнем усіх сваіх творчых сіл паўстае дзеля самабытнага нацыянальнага жыцьця, «Цётка» разумее, што такой самай дарогай, як беларусы, павінен пайсьці і народ жыдоўскі, скінуўшы путы культурнай залежнасьці ад „пануючых нацыяў“.

Мы ня будзем затрымлівацца на менш яркіх праявах адносін беларусаў да жыдоў, як яны выяўляюцца ў беларускай літэратуры. Іх многа, але ўсе яны уступаюць па сіле і яркасьці выражэньня гэтаму адрыўку Цёткі. За тое мы ня можам моўчкі прайсьці міма магутнага, яркага выступленьня беларускага нацыянальнага песьняра-прарока Янкі Купалы на страніцах беларускай штодзеннай газэты «Беларусь» (у Менску), ў каторай у 1919 годзе надрукованы быў яго верш пад загалоўкам «Жыды!»...

Жыды! «Хрыстапрадаўцы і прыблуды»!

пачынае Купала свой верш такім рэзкім дысонансам, узятым з буднага ўжытку чорнае соткі, а ўсьлед за гэтым зварочваецца да жыдоўскага народу з гэткімі гарачымі словамі:

О, слава вам, ўсебеларускія жыды!  
Я веру вам, хоць чорнай гразьзю ўсюды  
Плюе вам цар і раб, стары і малады.  
Нявольнікі вы сёньня з намі разам  
На Беларускай змучанай зямлі,  
Дзе чорны зьдзек пасьвенчаным абразам  
Гняце нас разам, як зьвяр'ё, ў крутой пятлі.  
Вы ўскрэсьнеце, жыды, усьлед за Беларусяй,—  
Сьцяг ваш і нашая паходня будуць жыць,  
Хоць наш магільнік кветкай апрануўся,  
Хоць згубны мор над намі гібеляй імжыць!

А далей пясьняр у яркіх абразох малюе гісторыю жыдоў і той зьдзек і пакуту, якую яны цярпелі тысячы год, адзначваючы, што Беларусь адна была для іх запраўднай Маткай:

Калі ў Гішпаньі ўзбунтаваны людзі  
З сваей краіны выгналі вас на пасьмех,  
На беларускім полі вашы грудзі  
Навек знайшлі днячаньне, страву і начлег.

І далей апісвае тую супольную няволю, ў якую папалі разам і беларусы і жыды.

Шлі дні. І вас у ланцугі скавалі  
Бязбожны каралі і дэспоты-цары.  
Адны вас беларусы шанавалі,  
Як блізкіх родных — да сьвятлейшае пары.  
Масква й Варшава аплюлі вам імя  
І ў дзікай чэрні ненавісьць збудзілі к вам,  
А Беларусь пад крыльямі сваімі  
Вас грэла й вашым нянькаю была дзяцям.

Але прарок беларускага адраджэньня ня можа ня ўнікнуць жыдом тых благіх рысаў, якія ў іх узгадавала доўгая няволя, ня можа ім выбачыць адступніцтва ад беларускага народу дзеля службы тым, хто і над намі і над жыдамі мае ўладу:

Пасьля, жыды, вы зрэкліся народу,  
Які вам шчыра даў багацьце і прыпын;  
Пайшлі прыдбаць сабе чэсьць і выгоду  
Да сільных тых, хто даў вам вісельню і чын!

Ды ўсё-ж такі гэта рыса, як вытвар няволі, не адпіхае беларусаў ад жыдоў: лішне многа бачылі мы адступнікаў ад нашага народу паміж самымі беларусамі... І Купала кажа:

Раскіданыя гібнуць па ўсім сьвецеі  
Вы Мэсыі чакаеце яшчэ, жыды,—  
Тэй Мэсыі ждуць Беларусі дзеці  
І з вамі пойдуць, як вы з намі, ўсе тады.  
Ваш ясны сьветач там, дзе Палестына,  
Наш ясны сьветач — Маці-Беларусь адна;  
Спадзе ланцуг ваш у сьляпым загіну,  
Спадзе ланцуг наш і зазьяе ўсім вясна!

Але дзеля таго, каб нашы дарогі не разышліся ў розныя бакі, Купала стаўляе жыдом цьвёрдае дамаганьне: ў гэты гістарычны мамэнт, калі выраішаецца пытаньне аб будучыне Беларусі мо' на доўгія часы, яны павінны сплаціць беларускаму народу стары доўг і падтрымаць яго ў барацьбе за волю і незалежнасьць:

Цяпер за вамі слова ў буру гэту:  
Пайці, ці не, з народам нашым да сьвятла...  
Пара, жыды, паны усёга сьвету,  
Сплаціці доўг, які вам Беларусь дала!

Гэты гарачы кліч да жыдоў, выказаны ў высока-мастацкай форме, бяспорна і разьдзяляецца ўсім сьвядомым беларускім грамадзянствам. А калі такія настроі, такія пагляды пануюць у павадыроў беларускага народу, ў яго нацыянальных прарокаў, дык нельга сумлявацца, што ў вольнай і незалежнай Беларусі жыцьцё зьдзейсьніць тое, што знайшло ўжо для сябе гэткае яркае выражэньне ў беларускай літэратуры.

15. V. 1921. **Ант. Навіна-**

памога ў суме 60.000 мк. на зьніжку цэн на тавары ніжэй цэн каапэратыўных. Адным словам, робіцца ўсе каб тым ці іншым спосабам прыдушыць ў краі каапэрацыю.

У нас звычайнымі ворагамі каапэрацыі лічацца жыды, ў руках якіх знаходзіцца амаль што ня ўвесь гандаль. А вось што пішуць купцы на гэты раз хрысьціяне, ў купецкім журналі „Kupiec“ (№ 16 за 1921 г. стр. 425): ... «Дзеля таго, каб змусіць купцоў панізіць цэны на тавары, закладаюцца каапэратывы, якія маюць заданьнем рэгуляваць цэны. (Трымаюся перакладу бліжэй тэксту). Каапэратывы ў вялікіх гарадох не даюцца купецтву так моцна „We znaki“, бо там што дзень ёсьць наплыў сьвежых закупшчыкаў, але ў малых мястэчках, дзе лік купляючых адзін і той, небясьпека купцом, што яны пры такой вялікай канкурэнцыі ўтрымаюцца. Калі такая каапэратыва адбярэ ў купецтва, і без таго пакрыўджанага вайною, даходы, дык пытаньне: хто будзе купецтва утрымоўваць і хто будзе плаціць падаткі?' У нас, у Вялікапольшчы (Пазнань) каапэратывы зусім непатрэбны; можна іх закладаць толькі там, дзе няма польскага гандлю і промыслу. Мы ўсе-брацьцья і вышлі мы з няволі нямецкай і будуем новаадроджаную Айчыну супольна, дзеля гэтага павінны старацца жыцьцё ў вольнай Польшчы «uprzyjemnić».

Магістраты і Рады Мейскія павінны гэту справу разглядзець і пераканацца, ці ня варта было-б, ў абароне купецтва і мяшчан і дзеля ўтрыманьня абыватэльства, якое плаціць падаткі, пастарацца закладаць каапэратывы толькі там, як у Конгрэсоўцы, дзе няхватка дробнага промыслу. У нас коопэратывы— вялікая конкурэнцыя, бо купецтва страціць потрэбныя яму даходы і замест падтрыманьня, яму рыхтуецца руіна. Таксама і Саюз Купецкіх Таварystваў павінен паклапаціцца ў Сойме (вось аж куды!) у гэтай справе, бо каапэратывы на-руку толькі жыдом, якія жадаюць гібелі нашашага купецтва, каб на яго месцы свае мільяновыя інтарэсы весьці“.

Бедныя купцы Пазнанскія! Чытаючы гэтыя „Słuszne uwagi kupca małomiejskiego“ проста жаль разьбірае за іх кішэні... Так і стаіць ўвачу таўсты-таўсты купец з цыгараю ў зубах: сядзіць ён на крэсьле і так жаласьліва пішаць, а слёзы так і льюцца, так і льюцца...

**Лукаш А.**

* * *

Люблю я сонца залатое,
Люблю прыгожаю вясной,
Калі ўсё новае, сьвятое
Сьмяецца радасна са мной...

Люблю нябёс вясьняных ласкі
І пацалункі ясных кос,
Што лашчаць дрэвы бяз указкі,
Што грэюць лісьцейкі бяроз...

Аджыў наш сад... Да сонца дрэвы
Галінкі цягнуць бы ў паўсьне...
Направа сіні цень, а ўлева
Ўсё усьмяхаецца вясьне...

Цьвітуць чаромха і чарэсьня,
Паненкай яблынка стаіць,
К ёй ветрык лашчыцца... і песьня
Сьвятлу, вясьне ўвушшу зьвініць.

Вясна, вясна, дачка лятункаў,
Нясі сьвятло, нясі жыцьцё.
Нясі атруту пацалункаў,
Красуй вясна, кахай усё!

Любі усё, сагрэй каханьнем
Жыцьцё зямлі, жыцьцё людзей.
Табе адкажа лес пяяньнем,
Мо' й людзі стануць весялей?

Цалуй лясы, ідзі гуляці
Ў палі, ў сады пагожым днём!
Кахай, кахай зямліцу—маці,
Палі яе, палі агнём!

**Натальля Арсеньнева.**

# Газэтны агляд.

## Расейская прэса у Амэрыцы аб беларусах.

I.

Як ўжо сваячасна было ў «Нашай Думцы» адмечана, расейская амэрыканская прэса страшэнна зацікавілася беларускімі справамі.

Найбольш за другіх адводзіць месца і асьвятляе нашы справы сялянска-працоўная газэта „Американские Известия“, якая зьяўляецца аффіцыяльным органам ўсіх рабочых арганізацыяў (расейскіх) ў Амэрыканскіх Злучаных Штатах.

Так у першай палове сакавіка, апрача дробных і вялікіх інфармацыйных заметак, перадрукаў з бюлетэняў беларускіх зарубежных Прэс-Бюро і розных адозваў беларускіх дзеячоў, — газэта зьмяшчае ў №№ 56 і 57, ад 14 і 15 сакавіка, вялікую ў 350 радкоў рэдакцыйную стацьцю „Паны и мужики“, ў якой з вялікай прыхільнасьцю абрысоўвае цяжкія варункі жыцьця беларусаў пад ўціскам Польшчы і Расеі, затрымліваецца ў задуме над цяперашнім становішчам і разважае аб тым, як трэба будзе трымацца беларусам і сёнека і ў будучыне.

Апавядаючы аб мінулым, аўтар стацьці кажа:

> «І польскі пан, і царскі чыноўнік цікавіліся Беларусьсю пастолькі, паскольк і сувязь з беларускім мужыком была патрэбна для зысканьня з яго налогаў і усялякіх пабораў.
>
> Затым яго пакідалі самаму сабе і на апеку манаполяў (казенных вінных лавак)...»;

— і далей, характарызуючы расейскую і польскую палітыку ў Беларусі, аўтар з абурэньнем падкрэсьлівае:

> «І паны і чыноўнікі марылі зрабіць з беларуса паляка, або веліка-роса,—шляхам прымусу і гвалту над яго сумленьнем...»,
>
> «... ні расейцы, ні палякі ня пыталіся аб пажаданьнях і думках беларуса, і тыя і другія гвалцілі яго душу, калечылі яго розум і забівалі веру ў свае сілы...».

Спыняючыся на сучасным становішчы Беларусі, ён знаходзіць, што яно ні ў чым не зьмянілася і не палепшала. Наадварот, цяперака, больш чым калі-небудзь, Беларусь падпала ўсякім ўціскам і неспадзейкам, бо за яе абшары адкрыта змагаюцца імпэрыялістычныя суседзі.

Ўвесь ратунак Беларусі ў агульным беларускім аб'яднаньні і незалежным істнаваньні:

> «Але каб ня быць цацкай (ігрушкай) ў чыіх-бы то ні было руках, Беларусь павінна аб'яднацца на аднэй, агульнай для усяго краю пляцформе і падтрымліваць тую ці іншую старану толькі ў тым выпадку, калі гэта будзе адпавядаць інтарэсам усяго беларускага працоўнага жыхарства».

Гэтак канчае аўтар сваю стацьцю.

Калі мы дамо сабе працу ўспомніць, якія погляды істнавалі і да гэтага часу істнуюць ў большасьці расейскай эміграцкай прэсы на самаазначэньне народаў, дык мы зразумеем якая вялікая зьмена стварылася ў поглядах тых, хто да гэтага часу быў заўзятым ворагам нашай незалежнасьці.

З прыемнасьцю павінны мы пацьвярдзіць, што перадавы расейскі работнік у Амэрыцы простым, але шчырым розумам сваім, раней за ўсю іншую эміграцкую масу дадумаўся, нарэшце, да таго, што без незалежнасьці беларускаму працоўнаму народу ня вывесьці сваю многапакутную Бацькаўшчыну на шлях Волі, Прасьветы і Шчасьця.

**Кастусёнак.**

# Штодзенныя весткі.

—·—

*Пятніца*, 20 *траўня* 1921 *г.*

— У В. Сьлезію прыяжджаюць новыя коаліцыйныя войскі. Вайсковая рада ў Парыжы так сама пастанавіла паслаць туды французскія войскі.

— Баварская прэса кліча ахвотнікаў у аддзелы проці палякоў у В. Сьлезіі. Адозва падпісана генараламі і нямецкай нац. партыяй.

— Вітос у сваёй прамове ў Сойме адказаваў на прамову Лёйд-Джорджа. Апіраючыся на статыстыку і плебісцыт ён даказваў, што Сьлезія — зямля польская і што Польшча хоча толькі справядлівасьці на аснове Вэрсальскае згоды. Польшча чакае ад вялікіх дзяржаў, што яны не дадуць немцам нарушыць мір.

— На выбарах у парлямэнт у Італіі перамагла партыя Джыоліты. Соцыялісты страцілі некалькі мандатаў. Камуністы панясьлі поўнае паражэньне.

— У Коўні ўрачыста спаткалі дэлегацыю ад „Малой Літвы“ (вокруг Мэмэля-Кляйпэды).

— Крызіс габінэту ў Польшчы адсрочаны ў сувязі з Сьлезскім пытаньнем.

*Субота*, 21 *траўня* 1921 *г.*

— Гюманс у справе віленскага пытаньня выехаў у Парыж, дзе зрабіў даклад Брыяну, што ён ня мае надзеі на добры рэзультат Брусэльскай конфэрэнцыі.

— Сапега падаў-такі просьбу аб адстаўцы.

— Міністар загран. справаў Лацьвіі заявіў, што саюз Балтыцкіх дзяржаваў ёсьць ужо істнуючы факт.

— З Рэвэлю паведамляюць аб новым паўстаньні у Петраградзе.

— „Совнарком“ у Маскве выдаў дэкрэт аб новай валюце. У Расеі выпушчаюцца сярэбраныя монэты. Адзін сярэбраны рубель будзе роўны 13 тысячам рублёў савецкіх.

— З Расеі паведамляюць што у Вітэбскую і Пскоўскую губэрні сьцягваюцца аддзелы чырвонае арміі, быццам на вялікія манэўры пад кіраўніцтвам самаго Троцкага.

— „Совнарком“ выдаў дэкрэт аб конфіскацыі маемасьці ўсіх эмігрантаў, каторыя не вярнуліся на бацькаўшчыну.

— У Італіі і Англіі ёсьць проект стварыць незалежную Сьлезію і зрабіць у ёй новы плебісцыт праз 10—15 гадоў.

*Нядзеля*, 22 *траўня* 1921 *г.*

— Польскі Сойм ухваліў рэзалюцыю ў пытаньні аб В. Сьлезіі.

— У Малой Польшчы ёсьць 300 вольных ваканцыяў вучыцялёў сярэдніх школ—кандыдатаў няма.

— Прэзыдэнт Злуч. Штатаў Гардзінг прыняў прадстаўніка Лацьвіі і Літоўскую дэлегацыю; у сваёй прамове ён гаварыў аб патрэбе цеснага саюзу балтыцкіх дзяржаваў.

— У М. Польшчы бастуюць 32.000 работнікаў на нафтовых промыслах.

— Італьянскія газэты абураны проці Польшчы за забойства сваіх сыноў на чужыне ў В. Сьлезіі.

— „Vilnius“ піша, што прызнаньне Антантай Літвы de jure затрымалася затое, што перашкаджаў польскі мін. Сапега, які заявіў у Парыжы, што калі гэта будзе, дык Польшча адмовіцца ад Брусэльскай конфэрэнцыі.

*Панядзелак*, 23 *траўня* 1921 *г.*

— Прэзыдэнт Гардзінг заявіў, што хоць Амэрыка і трымаецца пазыцыі няўмешаваньня ў Эўропэйскія справы, але яна зацікікаўлена у справядлівым рашэньні Сьлезкага пытаньня. Амэрыканскі пасол у Лёндане дастаў загад прыняць удзел у Вышэйшай Радзе па справах В. Сьлезкага пытаньня.

— Ангельская прэса надта здаволена тым, што Амэрыка ўмяшалася у В. Сьлезкую справу.

— Рэзалюцыя Польскага Сойму, прынятая у справе В. Сьлезіі, між іншым гаворыць, што страх падпасьць ізноў пад немцаў прымусіў палякоў падняць паўстаньне, каб паказаць усяму сьвету, што лепей сьмерць, чымся няволя.

— ВЦИК прыняў рэзалюцыю аб стварэні аўтаномнай Крымскай рэспублікі.

— Урад Амэрыканскіх Злуч. Штатаў заявіў бальшавіком, што Савецкая ўлада ня будзе ім прызнана датуль, пакуль Савецкі Урад ня выпусьціць з няволі Амэрыканскіх грамадзян, якіх па савецкіх турмах знаходзіцца ня менш за 20 тысячаў.

— У сувязі з засухай, у сярэдняй Расеі лясныя пажары.

— У Данецкім басэйне зьявіліся новыя паўстанцы пад кіраўніцтвам нейкага казака Чурумы.

*Аўторак*, 24 *траўня* 1921 *г.*

— Барацьба паміж немцамі і паўстанцамі ў В. Сьлезіі прадаўжаецца. Паўстанцы паведамляюць, што немцы пачалі наступленьне, ў іх ёсьць цяжкія гарматы; паведамляюць аб прыбыцьці новых адзелаў з Бавары.

— „Matin“ піша, што у В. Сьлезію будуць пасланы яшчэ дзьве дывізіі коаліцыйных войскаў. „Temps“ прапануе выслаць туды і ангельскія войскі.

— Польска-Літоўскія перагаворы ў Брусэлі не даюць надзеі на згоду. Гюманс апрацаваў свой проект згоды.

— Паведамляюць што Ковенскі ўрад, які ўжо папушчаўся, цяпер, пад уплывам ангельскай і нямецкай прэсы, ізноў стаў на неміравую пазыцыю.

— Міністар фінансаў прадставіў такі проект польскага буджэту на 1921 г.: расходы—198 мільярдаў, 647 мільёнаў; даход—118 мільяр., 537 мільён. марак.

— Маскоўская „Правда“ паведамляе, што ўзнавіўся абмен прыватных тэлеграм між Сав. Расеяй і Зах. Эўропэйскімі дзяржавамі.

— Бэрлін (Руспрэс). На гэтых днях пачаў спаўненьне сваіх абавязкаў новы прадстаўнік Беларускай Нар. Рэспублікі ў Нямеччыне Андрэй Бароўскі. Ен разам з тым зьяўляецца поўнамоцным цэнтральнага Саюзу Беларускіх Коопэратываў на ўсю Заходнюю Эўропу.

*Серада*, 25 *траўня* 1921 *г.*

— З аўторытэтных крыніц паведамляюць што нямецкі ўрад ужо вядзе перагаворы аб пазычцы грошай, каб заплаціць дзяржавам Антанты тое, што яны вымагаюць.

— Крызіс габінэту Вітоса ёсьць ужо фактам Вітос пачаў рады з прадстаўнікамі соймавых фракцыяў. Есьць праэкт злажыць габінэт толькі з цэнтравікоў і людоўцаў (без соцыялістаў). Левыя фракцыі падтрымліваць праэкт габінэту з спэцыялістаў.

*Чацьвер*, 26 *траўня* 1921 *г.*

— На пасаду міністра заграніч-ных спраў высоўваюцца кандыдатуры Дмоўскага і Домбскага.

— Чычэрын катэгарычна заяўляе аб няпраўдзе паведамленьня польскае прэсы аб концэнтрацыі чырвонай арміі у раёне Вітэбска і каля польскае граніцы.

Прыём ува ўсе клясы гімназіі (1-ы і 2-і падгат., 1—8 асн кл.).

У гімназіі працуюць выдатнейшыя пэдагогічныя беларускія сілы.

**Беларускія спэктаклі.**

У чацьверг, 19 г. м., у гарадзкой салі была пастаўлена «Птушка шчасьця» Аляхновіча.

---

Ў нядзелю, 22. V. ў памяшканьні «Грамадзянскага Музыкальна-Драматычнага Сабраньня» (Біскупская 12) адбылася белар. вечарына.

Пасьля прадстаўленьня «Міхалкі» з удзелам Ф. Аляхновіча, выступіў прытулковы хор дзяўчынак з Горадна, сьпяяўшы вельмі здатна шмат беларускіх сьпеваў.

**Падмога беларускім афіцэрам.**

18 траўня адбылося пасяджэньне Бел. Нацыянальнага Камітэту і прадстаўнікоў згрупаваных каля яго арганізацыяў, на яком была закранута справа падмогі беларускім афіцэрам, з расфармаванай цяпер вайсковай часткі. Як выясьнена, Беларускі Нацыянальны Камітэт можа выстарацца афіцэрам абеды ў Амэрыканскай кухні і даць 2 пакоі пад інтэрнат ў Беларускім Клюбе.

**Не дазволена.**

Ў апошнія дні мінулага красавіка месяца рэдактар «Нашай Думкі» зьвяртаўся ў дэпартамэнт унутраных справаў аб пазваленьні выпушчаць газэту „Н. Д." **два разы на тыдзень.**

Ў пазваленьні гэтым адмоўлена.

**Ад'званіў.**

Беларуская часопісь сцэнічных твораў пад назовам «Беларускі Звон» на 7 нумары зачынілася. Палітычныя артыкулы гэтай часопісі былі заўсёды прыязныя да Варшавы. Часопісь зачынілася, відаць, з прычыны няхвату падпісчыкаў.

# ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

**Хадзіць па вуліцах Вільні можна да 1 гадз. ўночы.**

Распараджэньнем гарадзкога старасты з 25 г. траўня забараняецца хадзіць на вуліцах Вільні ад 1 да 4 гадзіны ўночы.

---

**«Гэта было памылкова»...**

(З падслуханай размовы).

Ўваходзіць у Рэдакцыю польскай газэты пані і зьвяртаецца да рэдактара папольску: «Прашу п. рэдактара надрукаваць у сваёй газэце, што я кіраўніцай Белар. гімназіі ніколі ня была».

Рэд.: Але пані здаецца ёсьць беларускай вучыцелькай?

Пані: Ні кіраўніцай, ні вучыцелькай белар. гімназіі я ніколі ня была і наагул нічога супольнаго з беларускім грамадзянствам я ня маю... Я... Я..., каб пану было вядома, «была і ёсьць палячкаю... а гэта ўсё было памылкова»...

Вечная памяць... цяперака пэўна знайшла супакой душы, бо папала ў сваё *гнязда*.

**Вока.**

# Пісьмы у Рэдакцыю.

I.

Паважаны пане Рэдактар!

Прачытаўшы у № 19 ад 14 траўня у «Н. Д.» стацьцю «Беспадстаўнае абвінавачаньне», няведаю якім чынам папала туды мая фамілія, бо я аб нейкім беларускім Мураўеве нічога ня ведаю. Думаю, што п. рэдактар Шышкоў, ссылаючыся на нейкага Мурашку, меў на увазе не мяне, а кагось іншага, бо Мурашка ёсьць на сьвеце не адзін.

З пашанай

Вільня, 14. V. 21. **Юстын Мурашка**

---

II.

Паважаны пане Рэдактару!

Просім надрукаваць у газэце «Н. Д.» наш ліст.

Мы, слуцкія паўстанцы, не захацеўшыя ісьці ў концэнтрацыйны лягэр, раскідаліся па вёсках у прыфрантавым паясе.

Зіму мы сяк-так пракідаліся і цяпер жывём тут, працуючы ў сялян за кавалак хлеба. Але далей нам жыць няма ніякае магчымасьці. Мясцовая польская ўлада зьвярнула на нас увагу, як на непатрэбны элемэнт. Ўжо з нашых случчан польская ўлада аддала бальшавіком шэсьць асобаў: Бугарэвіча, Пракаповіча, Сярогу, Бандарыка, Васілевіча і Дамановіча.

Мы гэтым зьявішчам вельмі ўстрывожаны і зьвяртаемся да беларускіх дзеячоў з просьбаю паклапаціцца аб нас перад польскаю ўладаю, каб мы маглі далей працымацца тут спакойна.

Браты-беларусы! Зьвярнеце на нас увагу. Мы ня толькі падняліся проці бальшавіцкіх камісараў, каб захаваць сваю скуру, а мы паказалі прыклад усім беларусам, што толькі, ўзяўшыся за стрэльбу, можна збавіцца ад гвалту маскоўска-камісарскага рэжыму.

Мы ня пойдзем ні на якія уступкі, хто-б нам што не дакляроўваў. Мы самі добра ведаем, што толькі агульнымі сіламі сваіх братоў можна зрабыць сабе збавеньне ад чужацкага гнёту. Хоць мы цяпер і з парожнымі рукамі, але глыбока верым, што ў хуткім часе прыдзе такая гадзіна, што мы, як і раней, выступім стройнымі радамі вызваляць сваіх братоў і бацькоў, не зьвяртаючы ўвагі, што можа будзе ў нас на 100 чалавек 2 карабіны.

З паважаньем:

**Іван Басалыга**
**Л. Семяновіч**
**М. Кухта**
**Д. Шыловіч.**

# Дзеяльнасьць ураду Савецкай Беларусі.

«Известия» ад 23. IV. 21, ў заметцы пад загалоўкам «Белоруссия», падводнячы ітог Менскай працы, паведамляюць:

Трэцьцяя сэсія Цэнтральнага Спаўняючага Камітэту ў Беларусі прайшла з выключным пад'емамі. Падкрэсьлена цесная сувязь цэнтру з месцамі.

Сэсія адчынілася прамовай Прадсовнаркома (Старшыней Рады Народных Камісароў) Беларускай рэспублікі, п. Чэрвякова, які падкрэсліў пэраход Савецкай Беларусі ад барацьбы на фронце да барацьбы з разрухай. Тав. Чэрвякоў адзначыў асобны строй жыцьця краю, дзе заўсёды адчуваўся, побач з эканамічным, цяжкі нацыянальны прымус і гнёт. Дакладчык падкрэсліў зніштажэньне Савецкім ладам нацыянальнай барацьбы. Тав. Чэрвякоў адзначыў ўсе этапы развіцьця Савецкай Улады і блізкія адносіны ўсіх членаў ЦИК да гушчы жыхарства.

Сэсія ЦИК заслухала падробны даклад аб земляўстройстве і пасеўнай кампаніі. Пастаноўлена ў паветах: Барысаўскім, Бабруйскім і Мазырскім, споўніўшых разьверстку цалком, дапусьціць вольны абмен прадуктамі. Рэшта жыхарства запрашаецца да спаўненьня разьверсткі.

ЦИК зрабіў камісыю палепшэньня быту працаўнікоў.

Прынята важная пастанова аб адчыненьню ў Менску Дзяржаўнага Унівэрсітэту з факультэтамі: працоўным, мэдычным, грамадзкіх навук, фізыка-матэматычным і сельска-гаспадарскім. Пры унівэрсітэце пастаноўлена зрабіць інстытут беларускай і яўрэйскай культуры. Для патрэб унівэрсітэту адведзена 8 вялікіх будынкаў ў месьце. Пададзена просьба Р. С. Ф. С. Р. аб асыгнаваньні грошы з залатога фонду на закупкі за межамі рожных прэпаратаў, прыбораў і научнага інвентара (Б. П.-Б.).

---

# Віленская біржа (гельда).

25 траўня (мая) 1921 г.

| | | |
|---|---|---|
| Царскія 500 р. | 950 | мар. |
| „ 100 „ | 350 | „ |
| „ дробныя | 110—175 | „ |
| Думскія 1000 р. | 550 | „ |
| „ 250 „ | 400 | „ |
| Кярэнкі | 160 | |
| Доляры | 980 | „ |
| Фунты | 3400 | „ |
| Франкі | 77 | „ |
| Нямецкія маркі | 1630 | „ |
| Осты | 1575 | „ |
| 10 руб. золатам | 4.200 | „ |
| 1 „ серабр. | 180 | „ |

# Паштовая скрынка.

*Л. Родзевічу.* Дзякуем за ліст з 5.V. Прышлеце расказы дзядзькі Даніла. Прысылайце свае творы, аб якіх пішаце: што можам надрукуем.

# Інформацыйны аддзел.

**Беларускі Нацыянальны Камітэт,** Вільня, Вострабрамская 9, пакой 5. Старшыня Фабіян Ярэміч. Сэкрэтар Біруковіч. Камітэт адчынены штодня, апроч сьвят, ад 11 да 2 гадзіны. Паседжаньні пленуму у панядзелкі ад 6 гадзіны.

**Юрыдычны Адзел** Б. Н. К. адчынены ад 11 да 2 гадзіны ў дзень. Прыймаецца складаньне просьбаў і заяў у беларускай і польскай мове і кіраваньне рознымі юрыдычнымі справамі. Бедным рада дарма. Дзеля працы ў аддзеле запрошаны спрактыкаваныя юрысты.

**Інструктарскі Аддзел** Б. Н. К. пасылаець інструктароў на правінцыю, памагае арганізацыям радай, коштамі, літэратураю. Загадчык А. Карабач.

**Беларуская Школьная Рада,** Вільня Вострабрамская, 9. Старшыня М. Кахановіч, сэкрэтар А. Луцкевіч. Клапоціцца аб беларускіх школах і наагул аб справах беларускае асьветы. Памагае радай, коштамі і кнігамі.

**Беларускае Выдавецкае Т-ва** выдае ўсялякія кніжкі ў беларускай мове. Сябраў прыймае Урад Т-ва. Уступная плата—50 м., сяброўская гадавая складка—100 м. Адрэс Т-ва Вільня, Віленская вул. № 33, кв. 1 (адчынена ад 4 да 5 гадз. у дзень). Старшыня М. Гарэцкі, сэкрэтар А. Луцкевіч.

**Беларуская Кнігарня** Беларускага Выдавецкага Таварыства, Вільня, Завальная, 7. Прадаюцца усялякія кнігі, падручнікі для пачаткавых школ і гімназій, поўныя зборы твораў беларускіх клясыкаў, сцэнічныя творы, песьні з нотамі, газэты і розныя пісьменныя матар'ялы (сшыткі, алаўкі, пёры і шмат інш.). Прыймаюцца заказы ад школ і культурна-асьветных арганізацый па самай сходнай цане. Каталёгі высылаюцца дарма.

**Коопэратыўная Друкарня „Друк",** Вільня, Вострабрамская, 5 (Пасаж) прыймае усялякія беларускія і іншыя заказы.

**Беларускі Школьны Аддзел** пры дэпартамэнту асьветы. Вільня, Каўкаская вуліца (рог Вялікай Пагулянкі), 2, другі паверх, налева, пакой № 13. Рэферэнт Б. Тарашкевіч.

**Першая Віленская Беларуская Гімназія** (для хлопцаў і дзяўчат), Вільня, Вострабрамская, 9. Дырэктар М Кахановіч, інспэктар А. Дмахоўскі. Гімназія ў складзе 8 аснаўных (ёсьць паралельныя) і 2 прыгатавальных клясаў, з інтэрнатам пры ёй. Навука ў гімназіі даступна для самых незаможных дзяцей. Лепшыя вучні з пачаткавых беларускіх школ маюць магчымасьць пастуліць у гімназію і вучыцца ў ёй зусім дарма. Скончыўшыя гімназію ў 1920 г. вучацца цяпер ў Віленскім унівэрсітэтце і ў вышэйшых школах заграніцай.

**Беларускія пачаткавыя школы ў Вільні.** 1) Кальварыйская, 73. 2) Лідзкі тракт, могільнік. 3) Радунская 27-а. 4) Зарэчча, Панамарская, 12. 5) Аранбурская вуліца. 6) Антокаль. 7) Пры Беларускай гімназіі. Навука бясплатная. У кожнай школе даецца дзяцём сьнеданьне, а бяднейшым—вопратка.

**Цэнтральная Рада Беларускага Вучыцельскага Саюзу.** Канц. 1-й Віленск. Бел. Гімн., Вільня, Вострабрамская, 9.

**Першая Горадзенская Беларуская Гімназія** (для хлопцаў і дзяўчат). Есьць вакансіі ўва ўсіх клясах. Горадня, вул. Ожэшковай, № 28. Дырэктар М. Мараўская, інспэктар А. Тамашчык.

**Беларуская вучыцельская сэмінарыя ў Барунах.** Дырэктар С. Рак-Міхайлоўскі. Адрэс: м. Баруны Віленск. губ.

**Беларуская гімназія ў Гарадку** Вялейскага павета, Віленскае губэрні. Дырэктар Тышкевіч.

**Алёна Сакалова**—беларуская прадстаўніца у Амэрыканскім Камітэце Помачы дзяцём, Вільня, Вострабрамская, 9 пакой № 16, прымае ад 3 да 4 гадзіны.

**Прытулак Камітэта помачы,** Вільня, Вострабрамская, 9, (будынак гімназіі), Загадчыца Л. Васілевіч.

**Беларускі коопэратыў „Райніца"** Вільня, Вялікая Пагулянка, 17.

**Віленскі Саюз Коопэратываў,** Малая Пагулянка, д. № 12.

**Грамадз. Сабраньне Белар. Музыкальна-Драматычн. Гуртка,** Біскупская 12.

**Новаадчыненая спецыяльная Паліклініка венэрычных хвароб:** Людвісарская (Прэображэнская) № 14. Трыпер, сыфіліс (606—914), мочэплацёвыя, скурныя, бязсільле плоці, белі і інш. Прыймовыя гадзіны: для мушчын $8\frac{1}{2}$—$10\frac{1}{2}$ раньн. і 4 — 7 гадз. ўвеч. для кабет — 11—1 г. дн., што дня.

**Доктар А. В. Краскоўскі** (агульная медыцына). Прыймовыя гадзіны: ад $8\frac{1}{2}$ да 10, 2—3, 6—$7\frac{1}{2}$. Вільня, Вострабрамская, 20, кв. 6.

**«Krynica»** biełaruskaja tydniowaja hazeta. Redakc. i administracyja: Zawalnaja wul. 7; ad 9—6. „KRYNICA" kaštuje: na hod. 300 mk., na paŭhoda 150 mk., na 3 miesiacy 75 mk., asobny numar 5 mk.

**„Маладое жыцьцё"** — часопісь беларускай вучнёўскай моладзі — Вільня Вострабамская, 9.

**Шляхі да „Нашай Думкі":** Рыга, Nikolaistr. 20. — **Копэнгага В,** Dannebrogsgade 39 A. — **Прага,** Wenzigowa 4. — **Бэрлін, W. 30,** Motzstr. 21. — **Чыкаго,** 1252 So Union ave, U. 5. 17. — **Нью-Іорк.** 728 Stanway ave Long Island City — **Канстантынопаль,** Брусса, № 27. — **Рэваль.** Post kast 153 — **Парыж.** 25 Avenue Viktor Emmanuel III. — **Горадня,** вул. Ожэшковай 28 — **Варшава,** Шпітальная 12, кв. 29, Беларускі Нацыянальны Камітэт. — **Ліда,** Вісмонты, 48. — **Саколка,** Беластоцкая вул., п. Індурскі, р. Парук. — **Люцын,** Рэжыцкая вул., 38. — **Дзьвінск,** Варшаўская, 56 — **Баранавічы,** Шашова 112. — **Несьвіж,** Гарадзейская, 96.

---

Запісь ў Інформацыйны Аддзел „Нашае Думкі" прыймаецца на 3 месяцы пасобнай згодзе.



Рэдактар і выдавец А. Кабычкін.

Друкарня Віленскага Выдавецтва Б. А. Клецкіна.